# БЮЛЕТЭНЬ

Беларускага рэспубліканскага камітэту прафэсыянальнага саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў С. С. С. Р.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

МЕНСК, ПЛЯЦ ВОЛІ,
— ДОМ ПРАЦЫ —

ТЭЛЕФОНЫ.
Старшыні ЦП № 4-08
Арган. сэктар № 4-08

№ 14 — 5-га чэрвеня 1932 года — № 14








ЗЬМЕСТ





# ПАСТАНОВА.

**Прэзыдыуму Рэсп. Кам-ту Саюзу РЖС аб практычных мерапрыёмствах па рэалізацыі пастановы ЦК Усе КП(б) СНК НКЗ СССР аб жывёлагадоўчых саўгасах ад І-га красавіка 1932г.**

*Ад 10-га красавіка 1932 г.*

Выходзячы з пастановы ЦК Усе КП(б), СНК, і НКЗ СССР ад І-га красавіка 1932 г. аб жывёлагадоўчых саўгасах Прэзыдыум Рэсп. К-ту Саюзу РЖС пастанаўляе:

I.

Прапанаваць рабачкомам саўгасаў да 15/IV-32 г. забясьпечыць шырокае абгаварэньне пастановы ЦК УсеКП(б), СНК і НКЗ СССР ад 1-га красавіка 32 г. на брыгадных, цэхавых вучастковых і агульна-саўгаскіх сходах рабочых, работніц і інжынэрна-тэхнічных работнікаў, мабілізаваў апошніх на бальшавіцкую барацьбу за выкананьне і перавыкананьне вытворчай праграмы саўгасаў 1932 г., пастаўленай перад жывёлагадоўчымі саўгасамі партыяй і ўрадам.

Для атрыманьня адпаведных бальшавіцкіх тэмпаў у аснову ўсей работы павінна быць пакладзена рэалізацыя і сталае замацаваньне 6-ці ўмоў тав. Сталіна.

II.

Прэзыдыум Рэсп. К--ту Саюзу выключную ўвагу ў штодзённай рабоце Трэстааб'яднаньняў, дырэктароў і рабачкомаў саўгасаў зварочвае на таварнасьць жывёлагадоўчых саўгасаў, як актуальнейшую задачу ўсей работы. Трэстаб'яднаньні, дырэктары, рабачкомы саўгасаў павінны дабіцца выкананьня і перавыкананьня ў 2-м квартале 1932 г. здачы дзяржаве таварнай прадукцыі: па саўгасах Сьвінаводу 519 тон сьвінога мяса.........тон гавядзіны, 10,2 тоны малака..........тон масла, па саўгасах Белмалпрамтрэсту 8 тон гавядзіны, 3364 тон малака, 130 тон масла, 133 тоны сыру, па саўгасах Белптушкатрэсту 53—тоны малака і 34 цэнт масла.

Абавязаць дырэктароў і рабачкомы саўгасаў да 15/IV-32-г забясьпечыць давядзеньне плянаў таварнай здачы да сьвінарніка, скотнага двара, брыгады, рабочагаў месячным разрэзе.

Рабачкомы саўгасаў абавязаны арганізаваць сыстэматычны кантроль і праверку па здачы дзяржаве таварнай прадукцыі, да 15/IV-32 г. неабходна ажывіць работу кантрольных пастоў па праверцы здачы, а ў тых саўгасах, дзе яны ня створаны, безадкладна стварыць, паставіўшы іх работу на прынцыповую вышыню з тым, каб увесь рабочы калектыў саўгасу быў мабілізаван вакол гэтага вучастка работы. Уся гэта работа павінна праходзіць пад куткам погляду жорсткай барацьбы з спажывецкімі тэндэнцыямі, за 100% здачу дзяржаве таварнай прадукцыі.

Цэнтральным месцам таварнай здачы, асабліва сьвіной прадукцыі, павінна стаяць якасьць: за 90 кіло вагі на кожную здаваемую галаву.

III.

Улічваючы, што асноўнай умовай, забясьпечваючай таварнасьць, зьяўляецца поўнае выхаваньне маладняка, Прэзыдыум Рэсп. К-ту ставіць задачай перад рабочымі, работніцамі і ІТР саўгасаў уперад змагацца за захаваньне кожнай галавы. Неадкладна ва ўсіх цэхах склікаць вытворчыя нарады;—спэцыялістыя цэхаў абавязаны тэхнічна ўзглавіць гэтую работу, рашуча палепшыць догляд, правільнае рацыённае харчаваньне. Рабачкомы саўгасаў абавязаны мабілізаваць усю ўвагу рабочых жывёлагадоўчых цэхаў вакол работы лепшай сьвінаркі, целятніцы, даючых 100% захаваньне маладняка.

Асабліва завастрае ўвагу дырэктароў, рабачкомаў саўгасаў, што ў 32 г. камплектаваньне статка будзе ісьці выключна за кошт вырашчаньня маладняка ўнутры саўгасаў—выходзячы з чаго другі квартал 1932 г. павінен даць па Сьвінаводу—133-292 шт. парасят, па Белмалпромтрэсту 12.200 шт. цялят і па Белптушкатрэсту 11.233 шт. цыплят, 3733 шт. прыплоду водаплавучай птушкі.

IV

Стварэньне ўласнай устойлівай кармовай базы як асноўнага сродку забясьпечваючага разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі, патрабуе ад дырэктараў і рабачкомаў саўгасаў пасьпяховага правядзеньня веснавога севу поўнага і сваечасовага абсемяненьня кліну, унядрэньня агро-тэхнікі

і ўздыму ураджаю, дзеля чаго да 15/IV-32 г. скласьці па саўгасах і давесьці да паасобных брыгад і рабочых каляндарнікі пасеву кожнай культуры, максымальна загрузіць машыны, правільна раставіць рабочых, забясьпечыць выкананьне дырэктыў партыі і ўраду на 32 г. па ўздыму ураджайнасьці (штучнае ўгнаеньне, вапна, торп, севазварот, радкавы сеў, ачыстка, гатунковы сеў і інш.).

V.

Улічваючы яшчэ да гэтага часу нездавальняючай паста ноўку арганізацыі працы, недастатковае ўнядрэньне зьдзельшчыны, перавод цэхаў вучасткаў на гасразьлік, існаваньне абязьлічкі, і асабліва адсутнічаньне пастаноўкі адпаведнага вучоту, усё—гэта з усёй катэгарычнасьцю патрабуе ад Трэстаб'яднаньняў, дырэктароў і рабачкомаў саўгасаў рашучага пералому ў справе забесьпячэньня 100% ахопу зьдзельшчынай жывёлагадоўчых цэхаў і 80% работ вясеньняга севу.

Дырэктаром і рабачкомам саўгасаў да 15/IV-32 г. пераглядзець усе нормы выпрацоўкі і да 25/IV-г. г. унесьці ва ўсіх вучастках, цэхах, асобных вучотчыкаў, табельшчыкаў.

Трэстаб'яднаньням да гэтага-ж тэрміну праз скліканьне краткатэрміновых курсаў, падрыхтаваць патрэбны кадр нарміроўшчыкаў з разьлікам 1 нарміроўшчыка на саўгас, забясьпечыўшы пастаноўку вучоту зьдзельшчыне. Замацаваць перавод на гасразьлік паасобных вучасткаў, цэхі, ліквідаваць усе недахпы ў гэтай рабоце.

Трэстаб'яднаньням у 5-ці дзённы тэрмін распрацаваць мерапрыёмствы па тэхнарміраваньню ня менш 15% работ вясеньняга севу.

Прапанаваць рабачкомам, дырэктарам і ІТР саўгасаў неадкладна прыступіць да арганізацыі сацыялістычных гаспадарча--разьліковых брыгад, згодна нашых паказаньняў (бюл. №9), як аднэй з вышэйшых форм соцспаборніцтва на даным этапе будаўніцтва.

VI.

Прэзыдыум Рэсп. К-ту Саюзу патрабуе ад дырэктароў, рабачкомаў саўгасаў ва ўсей рабоце па практычнай рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) СНК і НКЗ СССР не паслабляць увагі на фарсіраваньне гаспадарчага будаўніцтва ў жывёлагадоўчых саўгасах, з тым каб у вызначаныя па прамфінпляну тэрміны дабіцца скончэньня будаўніцтва, узяўшы у аснову забясьпечанасьць патрэбнай сваечасовай нарыхтоўкі буд-

матар'ялаў, забесьпячэньне патрэбнай колькасьці рабсілы, адпаведная растаноўка яе, барацьба за якасьць і зьніжэньне коштоўнасьці будаўніцтва.

## VII.

Улічваючы правадзімую рэарганізацыю і разбуйненьне жывёлагадоўчых саўгасаў—арганізацыі ў кожным саўгасе ферм з закончаным зваротам стада, г. зн. маючых пастаянны матачны склад, поўную праграму гадоўлі стада, здачы прадукцыі і інш. Прэзыдыум Рэсп. К-ту зварочвае ўвагу Трэстаб'яднаньняў на сваечасовае правядзеньне гэтай работы, на сваечасовае складаньне прамфінплянаў на разбуйняемыя саўгасы, выключную ўвагу зьвярнуўшы на падрыхтоўку патрэбных кадраў, для чаго абавязаць Трэстаб'яднаньні і Сэктар кадраў Саюзу пад асабістую адказнасьць тав Пруднікава правесьці наступную работу:

а) Да 1-га ліпеня 32 г. падрыхтаваць старшынь рабачкомаў саўгасаў 70 чал., старшынь Рабачкомаў-фэрм 350 чал., праз каротка-тэрміновыя 5-ці дзенныя куставыя канферэнцыі.

б) Абавязаць дырэкцыю Трэста „Сьвінавод" падрыхтаваць кіруючых кадраў 850 чал., з іх:

| | | |
|---|---|---|
| Дырэктароў саўгасаў . . . . . | 50 | чал. |
| „ фэрм . . . . . . | 385 | „ |
| Статыстыкаў . . . . . . . . . . | 70 | „ |
| Бухгальтароў . . . . . . . . . | 45 | „ |
| Рахункаводаў . . . . . . . . | 300 | „ |

Забясьпечыўшы поўнае ўкамплектаваньне штату ўноў арганізаваных саўгасаў і фэрм пасьля разбуйненьня, вылучыўшы на гэту работу з старшых лепшых работніц і рабочых ударнікаў—600 чал.

в) Абавязаць усіх дырэктароў саўгасаў старшынь рабачкомаў правесьці зараз-жа вылучэньне з дэталёвым абгаварэньнем на вытворчых нарадах, агульных сходах рабочых, рабачкомах і ў дэкадны тэрмін паведаміць пэрсанальнымі сьпісамі.

## VIII.

Надаючы вялізарнейшае значаньне культмасавай рабоце ў жывёлагадоўчых саўгасах, Прэзыдыум Рэсп. К-ту прапануе Культмасаваму сэктару, пад асабістую адказнасьць тав. Карпусенка забясьпечыць правядзеньне наступных мерапрыемстваў:

а) Да 1-га мая арганізаваць Культпалітсаветы ў тых саўгасах, дзе яны яшчэ не арганізаваны.

б) Да 1-га мая скончыўшых лікпункты, перавесьці ў школы малапісьменных і ўцягнуць ў лікпункты ўсіх няпісьменных новых рабочых, уліваючыхся ў саўгасы.

в) Да пачатку палявых работ падрыхтавацца да выпуску спэцыяльных газэт-макетаў непасрэдна ў полі на мейсцы работ, асвятляючы ў іх ход работы вясеньняга севу і абмен вытворчым вопытам.

г) У час вясеньняга севу арганізаваць бібліатэчкі—перасоўкі па абслугоўваньню палявых работ.

д) Фізкультурным гурткам арганізаваць ў суседнія саўгасы фізкультуныя вылазкі па праверцы гатоўнасьці і ходзе веснавога севу.

е) Да 1-га чэрвеня укамплектаваць ўсе саўгаскія бібліатэкі.

ж) Культпалітсаветам праз культармейцаў і спэцыялістых правесьці кампанію за аўладаньне агратэхнікай і тэхнікай сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

з) Да 25/IV г. г. заключыць умовы з Радыёцэнтрам і Белдзяржкіно па радыёфікацыі і кінофікацыі саўгасаў.

і) Да 25/IV-г. г. заключыць дагавор з Аб'яднаньнем Драмгурткоў аб забесьпячэньні мастацкай літаратурай саўгаскія клюбы.

к) У месячны тэрмін тэатру скончыць прапрацоўку пьесы „Грунт“ і выехаць на абслугоўваньне саўгасаў.

л) Па сканчэньні вясеньняга севу арганізаваць вытворчую экскурсыю за межы БССР рабочых ударнікаў і ІТР ў колькасьці 50 асоб.

IX.

Прызнаючы адным з галоўных месц забясьпечваючых выкананьне і перавыкананьне вытворчай праграмы сацыялістычнага будаўніцтва жывелагадоўчых саўгасаў—паляпшэньне матар'яльна-бытавых умоў рабочых і спэцыялістых саўгасаў, Прэзыд. Рэсп. К-ту Саюзу абавязвае дырэктароў рабачкомы саўгасаў і Сацбытсэктар Рэсп. К-ту Саюзу, пад асабістую адказнасьць тав. Шумілава правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) Забясьпечыць арганізацыю і засеў ў тэрмін грамадзкіх агародаў, засеяўшы па ўсіх саўгасах не менш 2911-га.

б) У сувязі з разбуйненьнем саўгасаў, забясьпечыць адчыненьне ня менш 100 сталовак.

в) Давесьці сьвіннное пагалоўе ў сьвінаадкормачных пунктах рабкоопаў і сталоўках саўгасаў да 4.576 галоў,

давёўшы ў сярэднім 1 сьвіную галаву да 6-8 пудоў на 6 рабочых; Малочных фэрм да 2790 галоў, з разьлікам 1 галавы на 10 рабочых.

г) На працягу 2-га кварталу паслаць рабочых і ІТР на курорты па 15 чал. ў дамы адпачынку 148 чал.

д) На працягу 2-га кварталу адчыніць усе сталыя ясьлі давеўшы агульную колькасьць да 161., з ахопам 8.181 дзіцё.

е) Арганізаваць штодзенны кантроль і дапамогу ў справе жыльлёвага будаўніцтва рабочага забесьпячэньня і мер абслугоўваньня рабочых і ІТР жывелагадоўчых саўгасаў.

X.

Паслаць 60 чел. работнікаў Трэстаб'яднаньняў і Рэспуб. К-ту Саюзу для практычнай дапамогі саўгасам ў рэалізацыі гэтай пастановы, ахапіўшы ня менш 100 саўгасаў. Аргінструктарскаму сэктару да 15/IV г. г. забясьпечыць пасылку работнікаў ў саўгасы.

XI.

Абавязаць групу праверкі і выкананьня Рэсп. К-ту Саюзу і рабачкомы, наладзіць штодзенны кантроль па выкананьню гэтай пастановы. своечасова інфармуючы Рэсп.К-т.

На кожным пасяджэньні Прэзыдыуму заслухоўваць інфармацыі аб ходзе выкананьня пастановы ЦК усе КП(б) СНК і НКЗ СССР.

---

# ПАСТАНОВА.

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту Саюзу РЖС аб выніках правядзеньня калдагаворнай кампаніі 1932 году.**

*Ад 10-га красавіка 1932 г.*

1) Улічваючы вялізарнейшае значэньне ў правадзімай калдагаворнай кампаніі 1932 г. якая па сутнасьці праходзіла пад пунктам погляду мабілізацыі рабочых і ІТР жывёлагадоўчых саўгасаў на большую барацьбу за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну 1932 г., па фарсіраваньню работы па практычнай рэалізацыі 6-ці умоў т. Сталіна, за выкананьне плянаў здачы дзяржаве таварнай прадукцыі і поўным захаваньні маладняка, поўным забесьпячэньні усіх мерапрыёмстваў па пасьпяховым правядзеньні вяснавога

севу, на палепшаньне матар'яльна-бытавых умоў рабочых, работніц і ІТР жывёлагадоўчых саўгасаў.

2) Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу канстатуе, што за тэрмін правядзеньня калдагаворнай кампаніі ў жывёлагадоўчых саўгасах маецца значны зрух ў сэнсе арганізацыі гаспадарча-разьліковых брыгад з 79 да 175, значная актыўнасьць ў абгаварэньні дадатковых згод—з удзелам работаючых ў саўгасах да 85-90%, значны прыток рабочых прапаноў і асабліва сустрэчных паказчыкаў да прамфінпляну, па ўзьняцьці вытворчасьці, зьніжэньні сабекошту, скарачэньні тэрмінаў рамонту машын, с/г інвентара і пасева культур.

3) Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу лічыць ў асноўным калдагаворную кампанію скончанай—па зьвестках ад саўгасаў на 10/IV-г. г. падпісана дадатковых згод па саўгасах Сьвінаводу з 78—ў 64 саўгасах—82%, па саўгасах Белмалпрамтрэсту з 76—ў 60 саўгасах—70%, па Белптушкатрэсту з 11 падпісана ў 7 саўгасах—63% і па Белпушніне і Белкаапаб'яднаньні з 15 саўгасаў ў 6—45%.

4) Адмоўнымі бакамі сустрымліваючымі пасьпяховае правядзеньне калдагаворнай кампаніі зьяўляліся—адсутнічаньне ў саўгасах прамфінпляНаў (Рачкавічы, Старчыцы, Ходцы, Рэпішча), безадказнымі адносінамі з боку пасылаемых Рэсп. К-там саюзу работнікаў (Генэралаў, Ларкін прафкурсы, Белмалпрамтрэст—Юрасін, Смык—апошні без дазволу на гэта Рэсп. К-ту зусім ня выехаў на калдагаворную кампанію), затрымка з боку ЦК саюзу па дасылцы генэральных дагавароў (Біофабрыка). Асабліва неясным месцам зьявілася новая тарыфікацыя палявых работ, якая значна паніжала аплату рабочых, у выніку Рэсп. К-т саюзу прымушан быў да канчатковага высьвятленьня заставіць мінулагоднюю торыфную разьбіўку для палявых рабочых.

5) Налічча прарываў па некатарай частцы жывёлагадоўчых саўгасаў ў сэнсе невыкананьня пляну здачы дзяржаве таварнай прадукцыі (малако, мяса), недастатковай барацьбы за 100% захаваньне маладняка, марудная падрыхтоўка да пасьпяховага правядзеньня вясеньняга севу і не фарсіраваньне гэтай работы ў час правядзеньня калдагаворнай кампаніі, гавораць аб тым, што дырэктары і рабачкомы саўгасаў не мабілізавалі адпаведнай увагі рабочых і ІТР, не паставілі гэтыя вучасткі на баявыя бальшавіцкія тэмпы. Прэзыдыум Расп. К-ту саюзу завострывае

ўвагу дырэктароў і рабачкомаў саўгасаў на тое, што падпісаньне дадатковых згод зьяўляецца пачаткам ўсей агромністай работы, пастаўленай перад саўгасамі ў 1932 г.

Улічваючы вышэйадзначанае,—Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС пастанаўляе:

а) Прызнаць ход падрыхтоўкі і правядзеньне падпісаньня колдагаворнай кампаніі - здавальняючай, ў асноўным забясьпечыўшай адпаведную мабілізацыю рабочых і ІТР саўгасаў на большую барацьбу на бальшавіцкіх тэмпах работы—выкананьне прамфінпляну.

б) Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу лічыць патрэбным выключную увагу рабачкомаў ў саўгасах ў далейшай сваёй штодзеннай рабоце зьвярнуць на ўстанаўленьне сыстэматычнага кантролю і праверкі выкананьня колдагавору, як аднаго з адказьнейшых гаспадарча-палітычных дакумантаў гадовай работы рабачкому і дырэкцыі саўгасу.

в) Даручыць Плянава-вытворчаму сэктару ў самы бліжайшы час праз ЦК саюзу высьветліць становішча з тарыфікацыяй палявых рабочых і работ, гэтым самым ўнёсшы яскравасьць ў застаўленую тарыфікацыю мінулага году.

г) Плянава-вытворчаму сэктару саюзу не пазьней 12/IV-32 г. запрасіць ад саўгасаў, не даслаўшых зьвесткі, вынікі падпісаньня дадатковых згод, адначасова прадставіўшы на чарговае паседжаньне Прэзыдыуму для прыцягненьня да адказнасці сьпіс саўгасаў, якія затрымліваюць падпісаньне дагавароў.

д) Прэзыдыум даручае т. т. Сьмірнову і Папову прыцягнуць да адказнасьці работніка т. Смыка, які не паехаў ў саўгас Дарашэвічы для правядзеньня колдагаворнай кампаніі, аб выніках паведаміўшы Рэсп. К-т саюзу.

е) Прэзыдыум лічыць патрэбным паставіць перад Профшколай ЦСПСБ аб безадказных адносінах да даручанай работы з боку курсантаў Генэралава і Ларкіна, адначасова з гэтым зварочвае ўвагу на падбор ў далейшым больш адказных асоб.

ж) Плянава-вытворчаму сэктару саюзу забясьпечыць пастаноўку кантролю і праверкі ходу выкананьня колдагавароў па ўсіх трэстаб'яднаньнях.

# ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэсп. К-ту Саюзу РЖС аб выніках работы 1-й Усебеларускай канфэрэнцыі гасразьліковых брыгад жывёлагадоўчых саўгасаў.**

*Ад 10-га красавіка 1932 г.*

1. Надаючы вялізарнае значэньне пытаньням адпаведнай пастаноўкі арганізацыі працы і асабліва яе сацыялістычным новым вышэйшым формам (сацыялістычныя гасразьліковыя брыгады), арганізацыя якіх на данным этапе сацбудаўніцтва зьяўляецца лепшым шляхам у практычным ажыцьцяўленьні 6-ці ўмоў т. Сталіна, у справе забесьпячэньня бальшавіцкіх тэмпаў па выканьні і перавыканьні прамфінпляну і палепшаньня матар'яльнага становішча рабочых саўгасаў, Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС адзначае, што:

а) Побач з маючыміся вынікамі дасягненяў работы гаспадарчаразьліковых брыгад (с/г В. Новасёлкі, Старчыцы), якія ўпарта змагаюцца на фронце вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы ў сэнсе ўзмацненьня вытворчасьці працы, атрыманае павялічэньне за сакавік м-ц выхада малочнай прадукцыі асобнымі брыгадзірамі да 80% у адпаведнасьці з гэтым ўзьняцьця заработнай платы да 30-40%—аднак большая частка саўгасаў (с/г Сталіна, Рагінь, Камаровічы, Замошша, конесаўгас Прудок) яшчэ да гэта часу не прыступілі практычна да арганізацыі ў сваіх саўгасах гаспадарча-разьліковых брыгад, чым паставілі пад пагрозу зрыву адпаведную пастаноўку пытаньняў арганізацыі працы і выкананьня вытворчага заданьня 1932 г.

б) Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу падкрэсьлівае на поўнае адсутнічаньне апэрацыйнага кіраўніцтва з боку трэстаў у справе дапамогі ў рабоце гасразьліковых брыгад. Трэстаб'яднаньні яшчэ не пераключыліся ў гэтай рабоце-па пастаноўцы адпаведнага вучоту і аналізу, праяўляючы не зацікаўленасьць, што ў выніку ўсяго адбілася на адсутнічаньні прадстаўнікоў трэстаў на канфэрэнцыі (за выключэньнем Малпрамтрэсту).

2) Зацьвердзіць пастановы, вынесеныя канфэрэнцыяй, адзначыўшы праяўленую актыўнасьць з боку дэлегатаў канфэрэнцыі ў сэнсе далейшага фарсіраваньня гэтай работы і зьнішчэньня маючыхся недахопаў у рабоце арганізацыі гасразьліковых брыгад—акінуць самацёк ў гэтай рабоце—

лепшы жывёлагадоўчы саўгас павінен максымум рабочы і работ перавесьці на рэйкі стварэньня гасразьліковых брыгад, кіруючыся ўказаньнямі (бюлетэнь Рэсп. К-ту саюзу № 9) адначасова забясьпечыўшы сваечасовае заключэньне дагавароў на работы 3-га бальшавіцкага севу. Трэстаб'яднаньням узмацніць работу па сыстаматычным кіраўніцтву работ гасразьліковых брыгад, аказваючы канкрэтную дапамогу ў саўгасах работнікамі трэстаў, выязджаючымі ў саўгасы—дырэктарам трэстаў, вынікі камандыровак работнікаў у саўгасы па гэтым пытаньні ўзяць пад асобны кантроль.

4) У аб'яўленай пераклічцы гасразьліковых брыгад жывёлагадоўчых саўгасаў—рэдакцыі газэты „Сельгасрабочы Бел." забясьпечыць перанясеньне лепшага вопыту работы лепшай гасразьліковай брыгады.

5) Даручыць Плянава-Вытворчаму сэктару высьветліць аб прычынах неяўкі дэлегатаў з паасобных саўгасаў на канфэрэнцыю, прыняўшы адпаведныя захады да дырэктараў і рабачкомаў саўгасаў, якія безпадстаўна не камандыравалі дэлегатаў.

6) Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу даручае таварышом, выязджаючым ў жывёлагадоўчыя саўгасы на вясеньні сеў, аказаць практычную дапамогу па разгортваньні работы арганізацыі гаспадарча-разьліковых брыгад.

---

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэс. К-ту саюзу РЖС „аб удзеле ў конкурсе спаборніцтва на лепшага сьвінара".**

*Ад 12/IV-1932 г.*

1) Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС пастанаўляе ўключыцца ў праводзімы ўсесаюзны конкурс Наркамзему СССР з 25/III па 1/VII-32 г. на лепшага сьвінара сьвінасаўгасу

2) Лічыць, што правядзеньне конкурса на лепшага сьвінара зьяўляецца важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніяй, заклікаць усю профсаюзную арганізацыю прыняць самы актыўнейшы ўдзел па мабілізацыі рабочых саўгасаў

на правядзеньне конкурса і ператварэньня яго ў спаборніцтва за высокія паказчыкі якасьці сьвінагадоўчых саўгасаў.

3) Прапанаваць рабачкомам саўгасаў ні у якім разе не адрываць правядзеньне конкурса ад усіх другіх гаспадарча-палітычных задач стаячых, перад саўгасамі (вясеньні сеў, захаваньне маладняка, ацёл, апарос, зьдзельшчына, гасразьлік і г. д.)

4) Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу прапануе рабачкомам і дырэктарам саўгасаў увязаць правядзеньне конкурса з галаўнейшымі задачамі стаячымі перад саўгасамі і на гэтай аснове мабілізацыі рабочых саўгасаў на барцьбу за лепшыя паказчыкі работы сьвінасаўгасаў за выкананьне і перавыкананьне вытворчых праграм і прамфінлянаў саўгасаў.

5) Апрача прэмій устаноўліных НКЗемам СССР і БССР лічыць неабходным:

а) Выпусьціць альбом лепшых сьвінарэй сьвінасаўгасаў БССР з іх кароткай асабістай і вытворчай характэрыстыкай.

б) Узнагродзіць лепшых сьвінарэй вышаўшых з лепшамі паказчыкамі па конкурсу спэцыяльным ганаровым значком „Імя Рэсп. К-ту саюзу РЖС„.

в) Вылучэньне на вучобу ў ВНУ, тэхнікумы і на адказную адміністрацыйна-гаспадарчую кіруючую работу ўдарнікаў сьвінарэй і сьвінарак.

г) Прапанавць Курортнай Камісіі Рэсп. К-ту саюзу вылучыць з маючыхся курортных месц лепшым сьвінарам з большымі паказчыкамі па конкурсу 10 дамоў адпачынку на Паўднёвы Бераг Крыму і 5 курортаў.

6) Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС абавязвае ўсе рабочыя камітэты, пад асабістую адказнасьць старшынь, разгарнуць масавую рабту вакол конкурса так, каб умовы конкурса ў бліжэйшы час былі-б даведзены да цэхаў брыгады і да асобнага сьвінара і сьвінаркі.

7) Абавязаць знаходзячыхся чл. Прэзыдуму і інструктарскі склад Рэсп. К-ту саюзу на пасеўнай, арганізаваць і практычна дапамагчы ў правядзеньні конкурса ў саўгасах т. Шумілаву—Сталіна і Негарэлае, т. Пруднікаву—Вішнеўка 1-га Мая, т. Стасэвічу—Вялень—Сінча, Блонь, т. Краўчанка імя Блюхера і Васілеўск, т. Фрэйдзіну—Харамцы і Веснава

8) Абавязаць Арг. інструктарскі сэкар, пад асабістую адкзанасьць т. Краўчанка, выклікаць на адно з бліжэйшых пасяджэньняў Рэсп. К-ту саюзу старшынь рабачкомаў і дырэктараў саўгаса Вішнёўка, 1-га Мая, Сталіна, Вялень

Сінча, імя Блюхера, Горкі—Апчак з дакладам аб разгортваньні і правядзеньні работы па конкурсу.

9) Абавязаць рэдакцыю газэты „Сельгасрабочы Бел." асабіста т. Вігдаровіча шырока разгарнуць і папулярызаваць на старонках газэты ўмовы і ход работы па разгортваньні вакол конкурса.

10) Для практычнага ўдзелу і кожнадзённай сувязі з работай Штабу пры Наркамземе БССР, вылучыць са складу Прэзыдуму т. Падвойскага.

11) Прапанаваць Культсэктару і Арг. Інструктарскаму сэктару ў 3-х дзённы тэрмін прапрацаваць форму сводкі, па якой абавязаць усе рабачкомы інфармаваць аб ходзе разгортваньня работы па конкурсу кожнага 10, 20, і 30-га чысла, пачынаючы з I/IV-32 г.

---

ЗАЦЬВЕРДЖАНА
Прэзыдыумам ЦК саюзу ад 26.III-32 г.
Дадтак да прат. № 48

# МЕРАПРЫЕМСТВЫ

## Па ўдзелу ў конкурсе соцспаборніцтва на лепшага сьвінара.

### Асноўныя мэты і задачы конкурса.

1. Мэта конкурса—узьняць на барацьбу за аспраізводства стада рабочыя масы саўгасаў, узмацніць сьвіную гаспадарку, дапамагчы найлепшай арганізацыяй усёй гаспадаркі саўгасу на аснове разбуйненьня і набліжэньня кіраўніцтва да вытворчага ўдзелу—выявіць і замацаваць за саўгасамі асноўны касьцяк вопытных работнікаў вытворчасьці—жывёла ведаў, выяўленьне і заахвочваньне лепшых з іх, перанясеньне вопыту работы ў іншыя саўгасы, поўная здача таварнай прадукцыі дзяржаве.

(З палажэньня па правядзеньні конкурса).

2. Конкурс зьяўляецца аднэй з асноўных форм і мэтадаў пашырэньня жывёлагадоўчай праблемы і павінен праводзіцца як шырокая гаспадарча-палітычная кампанія, асноўнай і галоўнай задачй якой зьяўляецца правядзеньне і ўнядрэньне ва ўсе галіны сьвінаводчай гаспадаркі 6-ці ўмоў т. Сталіна, сталае замацаваньне асноўных вядучых кадраў рабочых,

поўная адказнасьць кожнага рабочага за даручаную справу, цьвёрды гасразьлік, у выніку чаго, каб к канцу конкурса мець:

а) Новую якасьць догляду за жывёлай (чыстата, гігіена).

б) Правільнае кармленьне скота, рацыянальнае выкарыстаньне кармоў і эканомія іх.

в) Максымальнае скарачэньне адыходу стада.

г) Лепшы догляд і лепшая якасьць выхаваньня маладняка і максымальнае захаваньне яго.

д) Максымальнае падвышэньне ўпітанасьці і прыросту стада.

е) Падвышэньне ўдойнасьці і павялічэньне выпуску валавой і таварнай прадукцыі.

ж) Зьніжэньне сабекошту, поўная і ў тэрмін здача таварнай прадукцыі дзяржаве.

з) Падняцьце на поўную вышыню пастаноўкі вучоту ўсіх матар'яльных элемэнтаў вытворчых працэсаў саўгасаў, працы і яго вынікаў.

і) Поўнае выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну саўгасу.

3. Ажыцьцяўленьне пастаўленых конкурсам мэт і задач патрабуе ад усіх органаў саюзу шырачэйшай мабілізацыі рабочых саўгасаў і пагалоўнага ўцягваньня іх у правядзеньне конкурса. Неабходна безадкладнае разгортваньне шырокай арганізацыйнай і агітацыйна-масавай работы профсаюзнымі арганізацыямі, растлумачэньня імі асноўных задач і гаспадарча-палітычнага значэньня конкурса.

## Па саўгасах.

Рабачкомы саўгасаў абавязаць:

1. Склікаць шырокія масавыя сходы рабочых з пастаноўкай пытаньня аб значэньні і задачах конкурса, сходы правесьці па ўсіх хутарах, вучастках, цэхах, брыгадах саўгасу.

2. Апрача гэтага правесьці даклады і гутаркі з асобнымі групамі рабочых (жанчыны, моладзь, ударнікі) і распрацаваць парадак правядзеньня іх па саўгасах.

3. Распрацаваць парадак правядзеньня вытворчых нарад у брыгадах, цэхах, вучастках і ў саўгасе.

4. Распрацаваць прыкладны плян правядзеньня конкурса па вучастку, цэху і ў самой брыгадзе.

5. На кожным вучастку для кожнага гуртка стварыць праверачныя брыгады на ўвесь час правядзеньня конкурса

і арганізаваць масавую праверку сьвінасаўгасаў па ўсіх паказчыках конкурса сацспаборніцтва

6. Арганізаваць заключэньне сацыялістычных дагавораў паміж вучасткамі, цэхамі, брыгадам, саўгасамі, а таксама паміж калгасамі і сыстэматычную праверку іх.

7. Распрацаваць спэцыяльныя мерапрыемствы па правядзеньні 6-ці ўмоў т. Сталіна ў брыгадзе сьвінарніка.

8. Арганізаваць у саўгасе спэцыяльныя насьценныя газэты па асьвятленьні хода конкурса.

9. Распрацаваць мерапрыемствы па арганізацыі агрозоотэхнічнай вучобы сярод рабочых сьвінсаўгасаў, сьвінарнікаў і асабліва сярод старшых сьвінарэй.

10. Распрацаваць спэцыяльныя мерапрыемствы па культурна-палітычнай рабоце ў сувязі з конкурсам-спаборніцтвам.

11. Пэрыядычна і сыстэматычна заслухоўваць кіраўнікоў вытв. нарад даклады на рабочым камітэце, вучасткаў, цэхаў, брыгад аб ходзе конкурса.

---

## ПАСТАНОВА.

**Прэзыдыуму Рэсп. К-ту Саюзу РЖС аб практычных мерапрыёмствах па разгортваньні культмасавай работы сярод новых кадраў рабочых.**

*Ад 10/IV-32 г.*

На выпрабаваным шляху будаўніцтва саўгасаў, калгасаў і МТС, партыя вядзе ўпартую барацьбу за вырашэньне жывёлагадоўчай праблемы, стаўшай цэнтральннай задачай на даным этапе.

Выкананьне дырэктыў партыі ў галіне разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі, падвышэньня якасьці работ, баявая падрыхтоўка і правядзеньне бальшавіцкімі тэмпамі вясеньне-пасеўной кампаніі, патрабуюць каранным чынам перабудовы ўсей култмасавай работы і ўсямернага падпарадкаваньня яе да задач сацыялістычнага будаўніцтва жывёлагадоўчых саўгасаў.

Дзякуючы шпаркаму росту жывёлагадоўчых саўгасаў, павялічэньня ў іх зямельнай плошчы і пагалоўя скага, значна павялічваецца колькасьць рабочых.

Па Малочна-прамысловаму трэсту ў бягучым годзе будзе занята рабочых 15.757 чал., альбо павялічэньне супроць мінулага году 64,9%, па Сьвінаводу 16.740 асоб альбо павялічэньне на 65,6 %.

Гэта павялічэньне колькасьці рабочых ў жывёлагадоўчых саўгасах будзе ісьці галоўным чынам з калгасаў і бедняцка-серадняцкай часткі вёскі, сярод якіх патрабуецца максымальнае разгортваньне культмасавай работы з тым, каб на працягу кароткага тэрміну з новых кадраў рабочых выхаваць клясава-сьвядомых барацьбітоў сацыялістычнага будаўніцтва жывёлагадоўчых саўгасаў.

У гэтых мэтах Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу пастанаўляе:

1) Правільная арганізацыя культмасавага абслугоўваньня новых кадраў рабочых, максымальнае ўцягненьне іх ў агульна-палітычнае жыцьцё саўгасу, забясьпечваюць яшчэ большае падвышэньне вытворчасьці працы і сьвядомых адносін да сродкаў вытворчасьці, таму ўсе рабочкомы павінны арганізавана сустрэць прыток новых кадраў рабочых ў саўгасы, правесьці масавую работу з тым, каб ў ваўсе формы і віды культмасавай работы ўцягнуць усіх новых рабочых, рашуча вядучы барацьбу з момантамі кулацкіх вылазак (псаваньне машын, рвацтва і г. д).

2. Ўлічваючы, што з новых кадраў рабочых будзе вялікая колькасьць няпісьменных і малапісьменных, якіх рабачкомам поўнасьцю ўцягнуць ў лікпункты і школы малапісьменных, загадзя дагаварыўшыся з гаспадарчымі ўстановамі і Нарасьветы аб забясьпячэньні лікпунтаў памяшканьнямі, настаўнікамі і вучэбнымі прыладамі.

3. Усямерна разгарнуць вытворчую прапаганду сярод новых рабочых, поўнасьцю ўцягнуць іх ў гурткі па аўладаньні тэхнікай сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

Галоўнейшай задачай рабачкомаў зьяўляецца ўцягненьне новых рабочых ў соцспаборніцтва і ўдарніцтва і гаспадарча-разьліковыя брыгады, забясьпячэньне штодзённай канкрэтнай дапамогі ім, узначальваньня ініцыятывы рабочых і падвышэньня клясавай сьвядомасьці.

5. Шляхам мабілізацыі ініцыятывы саміх рабочых мабілізацыі іх зацікаўленасьці ў палепшаньні бытавых умоў, праз мабілізацыю ўнутраных магчымасьцяў, забясьпечыць новых рабочых памяшканьнямі, грамадзкім харчаваньнем і г. д.

6. Паставіць як адну з важнейшых задач работы рабачкомаў сярод новых рабочых разгортваньне інтэрнацыянальнага выхаваньня, шляхам максымальнага ўцягненьня іх у гурткі па вывучэньні Ленінскай нац-палітыкі.

7. Частка новых рабочых будзе нясьці з сабой старыя перажыткі мінулага (рэлігійнасьць, п'янства і інш.), таму рабачкомы павінны разгарнуць палітыка-выхаваўчую антырэлігійную работу, якой ахапіць новых рабочых.

8. Для абслугоўваньня, ў час вясеньняга севу палявых рабочых, рабачкомы павінны арганізаваць перасовачныя формы культработы (бібліатэкі-перасоўкі, насьценгазэты, агітпавозкі, сцэніроўкі і г. д.)

---

## Усім рабачкомам жывёлагадоўчых саўгасаў БССР

*Паважаныя таварышы!*

Бурны рост сацыялістычнага будаўніцтва, разгорнутае наступленьне па ўсім фронту характэрызуецца абвастрэньнем клясавай барацьбы. У барацьбе супроць клясавага ворага і супроць апартунізма, партыя дасягнула буйнейшых рэзультатаў. Значныя дасягненьні маюцца і ў справе палепшаньня дзяржапарату і скараненьня бюрократызму. На гэтым фронце творчая ініцыятыва мас высунула шэраг новых форм барацьбы з бюрократызмам, новых форм непасрэднага ўдзелу рабочых ад станка ў кіраўніцтве дзяржавай, гэткія групы садзейнічаньня РСІ, шэфства прадпрыемстваў над установамі і сац. сумяшчальнасьці і г. д.

На даным этапе разгорнутага сацыялістычнага наступу барацьба з бюрократызмам ня можа абмежавацца толькі скарачэньнем штатаў палепшаньнем абыходжаньня з наведвальнікамі, чысткай апарату і г. д., а павінна быць накіравана раней за ўсё па лініі арганізацыі праверкі выкананьня, сьледуючы ўказаньню Леніна аб тым, што цяпер цьвік усёй работы, ўсёй палітыкі ў праверцы людзей, ў праверцы фактычнага выкананьня справы (па кожнай справе трэба ад часу да часу адзін раз у месяц ці два разы ў месяц, гледзячы па характару і важнасьці справы, а потым нечакана ўтварыць праверку рэальнага выкананьня — гэта самае і самае неабходнае). (Ленін—ліст к Гарбунову ад 3/IX-21 г.).

Выходзячы з задач, пастаўленых тав. Леніным, прафсаюзы павінны таксама ў аснову сваей работы, узяць кантроль за фактычным выкананьнем пастаноў партыі і ўраду і вышэйстаячых прафсаюзных арганізацый. Таму рабочым камітэтам неабходна зараз-жа арганізаваць пры рабочкоме добраахвотную групу кантролю і выкананьня, для чаго рабочыя камітэты павінны зараз-жа вылучыць кіраўніка гэтай групы з членаў рабочага камітэту, аслабаніўшы яго ад іх астатніх грамадзкіх нагрузак. Гэты кіраўнік павінен навакол сваей работы згуртаваць дабраахвотніцкі актыў, якому кіраўнік групы дае самастойныя заданьні па праверцы, а таксама праводзіць масавыя рэйды праверкі выкананьня рашэньняў вышэй-стаячых арганізацый у саўгасах.

Група кантролю мае наступныя правы:

1) Права азнаямленьня з усімі дакумэнтамі, якія адбіваюць выкананьне правераемага заданьня.

2) Права патрабаваць ад выканаўца заданьня тлумачэньня ў частцы правадзімай ім работы, якія адносяцца непасрэдна да выконваемага заданьня.

3) Прысутнічаць на ўсіх пасяджаньнях, дзе разглядаюцца пытаньні адносячыяся непасрэдна да пытаньняў кантролю.

4) Запатрабаваньня як унутры саўгасу, а таксама і па за саўгасам справак і матар'ялу, неабходных для вучоту і фактычнасьці праверкі.

5). Узбуджэньне пытаньня аб прыцягненьні да адказнасьці асоб за парушэньне імі правіл па кантролю і за неабгрунтованую затрымку выкананьня заданьня.

6). Падача запытаньняў і справак, выходзячых па пытаньнях кантролю.

## Абавязкі групы кантролю і выкананьня.

1. У абавязкі групы кантроля і выкананьня саўгасаў уваходзіць:

а) правяраць выкананьне дырэктыў партыі, ураду і вышэйстаячых прафарганізацый.

2. Ведаць выканаўца і сачыць за своечасовасьцю і якасьцю выкананьня заданьня, а таксама сумесна з выканаўцам устанавіць тэрмін выкананьня, калі апошнія не прадугледжаны самім заданьнем.

3. Падтрымліваньне непасрэднай сувязі з групай кантролю і выкананьня Рэсп. К-ту, інфармуючы яе на працягу

усёй работы аб ходзе выкананьня заданьняў і асабліва аб прарывах і недахопах выкананьня.

4. Інфармаваньне старшыні рабачкому аб становішчы праверкі выкананьня па саўгасу, прыняцьцё праз яго мер супроць перашкаджэньня выкананьня таго ці іншага заданьня.

5. Выяўляць канкрэтных віноўнікаў зрываючых выкананьне.

6. Арганізацыя сувязі з грамадзкімі арганізацыямі па пытаньні фактычнай праверкі.

7. Зьбірае і хавае матар'ял па кантролю.

УВАГА: Група праверкі, кантролю і выкананьня павінна ня толькі канстатаваць невыкананьне таго ці іншага заданьня, але павінна і сваечасова дапамагчы выканаць тое ці іншае заданьне.

8. Сачыць за выкананьнем пастаноў рабочага к-ту, агульнага сходу і вытворчых нарад.

**Адказнасьць груп кантролю і выкананьню.**

Група кантролю і выкананьня нясе наступную адказнасьць:

1) За поўную і сваечасовую сыгналізацыю грамадзкіх і партыйных арганізацый і Групы Кантролю і Выкананьня Рэсп. К-ту саюзу аб маючыхся прарывах, пагражаючых выкананьню заданьняў у тэрмін.

2) За выкананьне ўсіх дырэктыў партыйных, урадавых і вышэйстаячых прафарганізацый.

3) За выкананьне пастаноў рабачкому, агульнага сходу і вытворчых нарад.

4) Усе заданьні, пастановы паступаючыя ў рабочы камітэт падлягаюць узяцьцю пад кантроль, павінны праглядацца кіраўніком групы або сумесна з старшынёй рабачкому, вызначаюць асобу, якой даручана правядзеньне таго ці іншага рашэньня, таксама ўстанаўліваецца тэрмін выкананьня, калі ў гэтых пастановах апошняга ня маецца. На кантроль бяруцца ўсе пастановы партыі і ўраду, вышэйстаячых прафарганізацый, плянавыя заданьні саўгасаў і пастановы рабочага камітэту, агульнага сходу, вытворчых нарад, а таксама паасобныя прапановы рабочых, якія група абавязуецца правераць. На кантроль таксама бяруцца допісы, якія зьмяшчаюцца ў газэтах і насьценгазэтах і група павінна сачыць, каб на гэтыя допісы хутка рэагавалі і прымалі

меры, а таксама паасобныя заданьні старшынь рабачкомаў, калі ёсьць паказаньне старшыні, што тое ці іншае заданьне трэба ўзяць на фактычны кантроль.

5) Фактычная праверка выкананьня праводзіцца запытаньнем непасрэдна выканаўца аб тым, што ім зроблена па заданьні ў цэлым і ў асобных яго стадыях, а таксама азнаямленьне дакумэнтаў, у якіх адбіваецца выкананьне на-конт перапіскі, зьвязанай з кантролем не вядзецца і напамінкаў аб тэрмінах выкананьня ня робіцца асабіста. Выканавец поўнасьцю адказвае за сваечасовасьць выкананьня.

Так як кантроль за выкананьнем толькі тады будзе каштоўным, калі ён будзе вясьціся не пасьля сканчэньня тэрміну асобнага выкананьня, а іменна з пачатку выкананьня, каб сваечасова зьнішчыць перашкоды, дык група праверкі, кантролю і выкананьня павінна першую праверку прывурочыць к першым дням пачатку выкананьня. Усе наступныя тэрміны праверкі ўстанаўліваюцца ў залежнасьці ад працягласьці агульнага тэрміну выкананьня і вынікаў першай праверкі.

6.) Прыкладна адзін раз у 3 месяцы Група Кантролю і выкананьня адлічваецца на агульным сходзе рабочых аб праробленай працы і аб становішчы выкананьня ў саўгасе.

Група Праверкі, кантролю і выкананьня рэгулярна асьвятляе ход выкананьня заданьняў у насьценгазэце.

7.) Пры невыкананьні заданьня тым ці іншым выканаўцам, могуць быць ужыты наступныя меры ўзьдзейнічаньня:

Грамадзкае ганьбаваньне з абвесткай ў газэце.

Грамадзкі суд.

І калі ў працы кантролю за выкананьнем будзе ўстаноўлена, што дзякуючы кепскаму і несваечасоваму выкананьню нанесена шкода інтэрэсам дзяржавы выканавец павінен прыцягвацца да суду.

8) Група Кантролю і выкананьня таксама павінна сачыць за тым, каб сваечасова адказвалі на ўсе запытаньні зьвестак з вышэйстаячых установ.

9.) Рэсп. К-т саюзу лічыць, што важнейшай задачай ўсей практычнай работы ўсіх рабачокмаў павінна зьявіцца рэзкае пераключэньне аб вынясеньні дэклярацыйных прапаноў к арганізацыі праверкі выкананьня як кожнага прафсаюзнага зьвяна і кожнага прафработніка.

Устанаўленьня сапраўднага кантролю і фактчнай праверкі выкананьня ўсіх рашэньняў прафарганіацый, бараць-

ба з безадказнай расхлябанасьцю, абязьлічкай, як у апаратах гасарганізацый, так і ў прафапараце, барацьба з фармальнай пастаноўкай кантролю і ўстанаўленьне сапраўднай чоткасці ў рабоце прафапарату і адказнасьці кожнага профработніка за выкананьне вынесеных рашэньняў і пастаноў, вось на чым павінны згрунтаваць сваю ўвагу групы кантролю і выкананьня.

10) Зьвесткі аб правядзеньні гэтай работы і прозьвішча кіраўніка групы, паведаміць у Рэсп. К-т саюзу не пазьней 20/VI-32 г.

---

# ПАСТАНОВА.

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага К-ту Саюзу РЖС па дакладу аўтаномнай саўгассэкцыі і Сацбыта, аб арганізацыі жывёлагадоўчай саўгасасэкцыі пры БКС.**

*ад 21/V-32 г.*

На падставе рашэньняў ЦК Усе КП(б)Б ад I/IV-32 г. і Цэнтрасаюзу ад 9/IV-32г. існаваўшую да гэтага часу саўгассекцыю рэарганізаваць у аўтаномую каапэрацыйную секцыю па абслугованьні жывелагадоўчых саўгасаў. **Жыўсаўгассэкцыю**, як самастойную гаспадарчую арганізацыю перевеўшы ўсю працу апошняй на строга гаспадарчы разрахунак, у зьвязку з гэтым Прэзыдыум Рэспубліканскага К-ту саюз РЖС **Пастанаўляе:**

1. Жыўсаўгассэкцыі на працягу месячнага тэрміну правесьці ўсю арганізацыйную работу як па выдзеленьні, а таксама і ўноў арганізацыі ў жывёлагадоўчых саўгасах-саўгасрабкоопаў, і іх гаспадарчае афармленьне іўзмацненьне, з мэтай лепшага абслугованьня і забясьпечэньня рабочых, ІТР і служачых жывёлагадоўчых саўгасаў.

2. Арганізаваць ва ўсіх тых саўгасах—саўгасрабкоопы, ў якіх маецца ня менш 350 сталых рабочых і будаўнікоў, у тых жа саўгасах у якіх ня маецца 350 сталых рабочых, арганізаваць адзін саўгасрабкооп на некалькі саўгасаў тэрыторыяльна блізка ляжачых адзін ад другога з абавязковай арганізацыяй гандлёвых адзінак у кожным саўгасе.

3. Увесь кіруючы і тэхнічны апарат саўгассэкцыі перадаць жывёлагадоўчай саўгассэкцыі у справе поўнага ўкамплектаваньня здольнымі працаўнікамі саўгассэкцыі (жыўсаўгасекцыю).

4. Абавязаць жыўсаўгассэкцыю на працягу 5-ці дзён не пазьней 25/V-г.г. прадставіць Маскве кантынгэнты рабочых саўгасаў для ўключэньня ў плян забесьпячэньня у 3 квартал.

5. Прапанаваць Арбюро жыўсаўгассэкцыі да 10 чэрвеня распрацаваць кантрольныя лічбы на 1932 г. па усіх паказчыках гаспадарчай дзейнасьці жыўсаўгассэкцыі і прадставіць на зацьверджэньне прэзыдыуму.

6. Справа арганізцыі жыўсаўгасрабкоопаў набывае выключнае значэньне ў справе падбору работнікаў саўгасрабкоопаў, а пагэтаму прапанаваць усім рабочым, камітэтам вылучыць на кіруючую і тэхнічную працу лепшых рабочых і ўдарнікаў.

7. Прасіць прэзыдыум БКС даць адпаведнае распараджэньня Райспажыўсаюзам аб сканчэньні арганізацыі жыўсаўгасрабкоопаў у месячны тэрмін, выдзеліўшы саўгасрабкоопам адпаведныя паевыя і зваротныя капіталы па іх удзельнай вазе.

8. Таксама прасіць Прэзыдыум БКС выдзеліць капіталы жыўсаўгассекцыі, каб яна змагла разгарнуць сваю працу безперабойна ў сэнсе забесьпячэньня рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў.

9. Усю працу па арганізацыі рабкоопаў распачаць зараз-жа ў тых раёнах, якія закончылі і заканчваюць вясеньній сеў, з такім разрахункам, каб скончыць гэту працу не пазьней 15 чэрвеня.

10. Прапанаваць саўгассэкцыі стварыць каротка-тэрміновыя курсы па падрыхтоўцы кадраў для жыўсаўгасрабкоопаў.

11. Для пасьпяховага праведзеньня гэтай работы выдзеліць 10 адказных работнікаў у дапамогу саўгассэкцыі па арганізацыі жыўсаўгасрабкоопаў.

12. Даручыць сэктару кадраў т. Пруднікову подабраць 3-х работнікаў для работы ў саўгассэкцыі.

# ПАСТАНОВА

**Прэзыдыум Рэсп. К-ту Саюзу РЖС па дакладу сацбытавога сэктару саюзу „аб арганізацыі трусаводных фэрм пры саўгаскіх сталоўках“**

*Ад 21-га мая 1932 г.*

На падставе рашэньняў ЦК Усе КП(б) ад 8/V-32 г. аб арганізацыі трусаводных фэрм пры сталоўках, Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС пастанаўляе:

1) Абавязаць саўгассэкцыю зараз-жа прыступіць да арганізацыі трусаводных фэрм пры сталоўках ва ўсіх тых саўгасах, дзе маюцца саўгасрабкоопы з такім разьлікам, каб было пастаўлена ў першым пачатку ня менш 10-15 трусаматак.

2) У тых жа саўгасах, дзе няма рабкоопаў, прапанаваць дырэктарам і загадчыкам сталовак прыступіць да арганізацыі трусаводных фэрм пры сталоўках, каб на першы пачатак паставіць ня менш 10 трусаматак.

3) Абавязаць рабачкомы саўгасаў разгарнуць гэту працу сумесна з трохкутнікам ў адносіне арганізацыі крольчатых фэрм пры сталоўках саўгасаў, праз якія будзе магчымасьць палепшыць грамадзкае харчаваньне, мінуючы ўсялякі цэнтралізм у сэнсе камплектаваньня трусаводчых фэрм, праявіўшы максымальную актыўнасьць на месцы па ўкамплектаваньні, аб чым інфармаваць Рэсп. К-т саюзу.

4) Прапанаваць рабачкомам саўгасаў выдзяліць сродкі, прызначаныя па каштарысу рабачкомаў на палепшаньне грамадзкага харчаваньня рабочых, для закупкі труса-матак. закупка павінна быць утворана загадчыкамі сталовак сумесна з рабочым камітэтам.

---

# ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэсп. К-ту Саюзу РЖС „аб удзеле ва Ўсебеларускай аўто-мота-эстафэце „за ўраджай“ абвешчанай у гонар VII Усесаюзнай канфэрэнцыі ЎсеЛКСМ“.**

*Ад 21/У-1932 г.*

1) Прапанаваць рабачкомам жывёлагадоўчых саўгасаў аказаць максымальную практычную дапамогу камсамольскім арганізцыям у правядзеньні эстафэты на мясцох у саўгасах.

2) Адказнасьць за дапамогу ў правядзеньні эстафэты ўскласьці на т. Вапнэ.

3) Вылучыць са сродкаў саюзу для прэміяваньня лепшай каманды за пасьпяхова праробленую працу па правядзеньню эстафэты 300 рублёў.

Адказны рэдактар—КРАЎЧАНКА
Выдавецтва—Рэспубліканскі к-т саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў









Галоўлітбел № 677. Тыраж 500.— Зак. 316. Друкарня М. Ф. П. К.